ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XX. № 160 Нью Ёрк August — Жнівень 1970 New York Vol. XX. № 160

## САВЕЦКІ ПЕРАПІС 1970 ГОДУ

Цэнтральная статыстычная ўправа СССР абвесьціла нядаўна некаторыя дадзеныя сёлетняга савецкага перапісу жыхарства. Апублікаваныя былі агульныя лікі жыхароў па рэспубліках ды акругах, паказальнікі росту урбанізацыі ды лікі жыхароў большых местаў. Дадзеныя перапісу пра нацыянальны склад, мову, групы веку, ды іншыя, маюць быць абвешчаныя пазьней.

І апублікаваныя ўжо перапісныя дадзеныя яскрава адлюстроўваюць памеры дэструкцыйных для жыхарства Беларускае рэспублікі рэзультатаў тых масавых вывазаў, якія дзесяткамі гадоў праводзяць партыйныя валадары імпэрыі. Некаторыя лікі перапісу, што датычаць да Беларусі, гэтта коратка разгледзім.

Як перапіс паказаў, сяньня ў межах Беларускай рэспублікі жыве 9,003,000 жыхароў (ува ўсім СССР цяпер 241,700,000). Дык за адзінаццаць гадоў ад перапісу 1959 году, калі ў БССР было 8,056,000 жыхароў, жыхарства рэспублікі павялічылася толькі на 947 тысячаў. Гэта паказвае на вельмі павольны тэмп росту жыхарства ў міжперапісных гадох. Калі лік жыхароў усяго СССР гэтым самым часам узрос блізу на 16%, дык у Беларускай рэспубліцы падняўся ён толькі на працэнтаў 12. Гэта дае, калі падзяліць на адзінаццаць міжперапісных гадоў, толькі адзін працэнт сярэдняе гадавое раты росту. Дык паказальнік прыросту жыхарства ў рэспубліцы абнізіўся роўна на палавіну, бо-ж ведама, што ў неваенных гадох XX-га стагодзьдзя тыповы натуральны прырост жыхарства для тэрыторыі Беларусі станавіў у сярэднім 2%.

Павольны тэмп росту жыхарства беларускае тэрыторыі за мінулыя гады абумоўлены галоўна дзьвюма прычынамі: масавымі дэпартацыямі жыхароў рэспублікі на Сібір і ў іншыя далёкія, пераважна азійскія, краі імпэрыі, ды — драматычным спадам высокае калісьці ў Беларусі нараджальнасьці.

Масавыя вывазы прычына й таго, што перапіс у рэспубліцы выявіў 300 тысячаў недабору навет і таго ліку жыхароў, якога трэ было-б спадзявацца на аснове сучаснага нізкога натуральнага гадавога прыросту. Паколькі-ж адначасна з вывазамі адбываецца й масавае насыланьне ў межы рэспублікі расейскае каляніяльнае адміністрацыі, што памяншае ды затушоўвае запраўдную лічбу недахопу жыхарства, дык ясна, што лік вывезеных у міжперапісным часе мясцовых жыхароў рэспублікі быў шмат вышэйшы за 300 тысячаў ды напэўна перавысіў лічбу поўміліёна.

Зразумела, што ўжо самыя няспынныя масавыя вывазы жыхароў катэгорыяў маладога веку, жыхароў найвышэйшае рэпрадукцыйнае здольнасьці, спрычыняюць паважны спад ліку нараджэньняў рэспублікі. Адбіліся, бясспрэчна, на нізкіх ліках нараджэньняў і хранічна цяжкія матар'яльныя абставіны ды вечныя нястачы савецкага і асабліва калгаснага жыцьця. Ды найважнейшая бадай роля ў справе вялікага спаду нараджальнасьці прыпала таму савецкаму „сацыялістычнаму зраўнаньню жанчынаў з мужчынамі”, якое дазваляе кіраваць жанок і на найцяжэйшую фізычную працу. Гэта, зразумела, вынішчае сілы жанчыны, адрывае матак ад дому, ад дзяцей, ад сямейнага жыцьця.

Вось у выніку савецкае „сацыялізацыі жанчыны” высокія калісьці лікі нараджэньняў у рэспубліцы, а за імі й лікі натуральнага прыросту жыхарства, апалі апошнімі гадамі да раней ніколі неваенным часам не назіранага нізкога стану. Калі ў Беларусі першае палавіны XX стагодзьдзя гадавая рата нараджэньняў у сярэднім выражалася высокім лікам 40 на 1000 жыхароў, дык цяпер лік гэты не дасягае й паловы таго, бо ён ніжэйшы за 17. У выніку й гадавы лік натуральнага прыросту, які калісьці ў сярэднім быў 20 на 1000 чалавек, апаў цяпер ніжэй за 10, ці больш як на палавіну.

Катастрафальным спадам нараджальнасьці ў Беларусі затрывожыліся апошнім часам навет і дэмографы рэспублікі. Андрэй Ракаў, прыкладам, у кнізе „Население БССР” робіць высnаў, што пры сучасным тэмпе спаду нараджальнасьці можа дайсьці да таго, што лікі сьмяротнасьці перавысяць з часам лікі нараджэньняў, і агульны лік жыхарства рэспублікі й бяз вывазаў на прымусовыя перасяленьні пойдзе на спад. Той самы Ракаў перасьцярагае, што ўжо „патрэбныя пэўныя меры матар'яльнае й ідэялягічнае стымуляцыі” ды „пэўныя законадаўныя акты”, каб запыніць сучасны працэс спаду нараджальнасьці. Лёгка здагадацца, што ні „ідэялягічная стымуляцыя” савецкіх палітрукаў з заклінаньнямі на Маркса ды Леніна, ані „законадаўныя акты” марыенэткавага „парлямэнту” БССР ня ў стане адвярнуць таго дэмаграфічнага працэсу, карэньне якога выростае з самых асноваў савецкага ладу ды які — вынік бязуважнага таптаньня партыяй жыцьцёвых патрэбаў ды людзкіх правоў і жанчыны, і чалавека, і цэлых народаў.

Апублікаваныя нядаўна перапісныя дадзеныя выяўляюць і памеры далейшае урбанізацыі рэспублікі. Лік ды вялічыня местаў Беларусі, а адначасна й прапарцыянальны лік меставога жыхарства рэспублікі, растуць. Жыхары местаў сяньня складаюць 43% усяго жыхарства БССР. Сталічны Менск мае цяпер 916 тысячаў жыхароў. Сяньня ў межах рэспублікі ёсьць і яшчэ восем местаў зь лікам жыхароў большым за 100 тысячаў: Гомель 272 тыс., Віцебск 231, Магілеў 202, Бабруйск 138, Горадня 132, Берасьце 122, Баранавічы 102, Ворша 101.

Сучасны рост местаў рэспублікі толькі часткова адбітак натуральнага эканамічнага іх разьвіцьця ды поступу індустрыялізацыі рэспублікі. Рэч усім ведамая, што ў плянах Масквы індустрыялізацыі свае імпэрыі Беларусь заўсёды была на самым шэрым канцы. Ня толькі вялікія масы жыхарства Беларусі, але й вялічэзную частку прамысловае прадукцыі рэспублікі Масква ўвесь час забірала й перакідала ў рэспублікі ды краі іншыя, і найперш азійскія, каб паскорыць індустрыялізацыю там. Як паказваюць дадзеныя перапісу, калі ідзе пра тэмп урбанізацыі, сярод 15-ці рэспублікаў СССР Беларусь цяпер займае аж адзінаццатае месца.

Рост местаў рэспублікі сяньня абумоўлены найперш стыхійным адыходам, проста ўцёкамі, жыхароў вёсак у месты ў шуканьні больш людзкіх абставінаў існаваньня, якія ў калгасах партыя зьвяла да стану падобнага да часоў прыгону ў Беларусі. Другі важны дзейнік тэмпаў сучаснае урбанізацыі, гэта далейшая бюракратызацыя савецкае палітычна-эканамічнае сыстэмы.

Выяўленыя перапісам ненатуральна высокія, ад 40 да 46%, паказальнікі росту жыхарства азійскіх рэспублікаў СССР — Таджыцкай, Узбэцкай, Кіргіскай, Туркменскай, Казахскай, — мала не чатыры разы вышэйшыя як у Беларусі, паказваюць, куды Масква сяньня вывозіць жыхароў рэспублікі Беларускай. Масавымі дэпартацыямі моладзь Беларусі перакідаецца галоўна на сумежныя зь Кітаем прасторы, на землі, звароту якіх, як грабежна расейскімі царамі калісьці ад Кітаю захопленых, якраз апошнім часам ад Масквы дамагаецца Мао Цзэ Дун. Ведама, што й самыя вывазы апошніх гадоў абумоўленыя ў вялікай меры сьпешнаю разбудоваю вялізных камплексаў савецкіх вайсковых умацаваньняў уздоўж тысячы кілямэтраў даўжэзнае савецка-кітайскае мяжы, як рыхтаваньне з боку Масквы да спадзяванага ваеннага зудару двух чырвоных імпэрыялізмаў.

Вось на далёкія ад справаў і патрэбаў Беларусі прасторы Азіі ды для чужых імпэрыялістычных інтарэсаў беларускі народ сяньня й змушаны слаць цяжкую штогоднюю даніну — аддаваць сваё найбольш каштоўнае, нічым незаменнае багацьце — сваіх сыноў і дачок, сваю моладзь, сваю будучыню. Гэты факт выяўляюць ды канкрэтнымі лікамі пацьвярджаюць апублікаваныя дадзеныя апошняга перапісу жыхарства СССР.

**А. Багровіч**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ЁРКУ

**У НЯДЗЕЛЮ 12 ЛІПЕНЯ:**

Адзначаньне Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку пачалося ў гэты дзень парадам нацыянальных групаў па 5-ай авэню да катэдры сьв. Патрыка, у якой была адслужаная адмысловая імша за вызваленьне паняволеных бальшавізмам народаў. Магчыма першы раз у ньюёркаўскай катэдры імша была адслужаная паводля каталіцкага ўсходняга абраду япіскапам Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Я. Шмоньдзюком у прысутнасьці кардынала Т. Кука. Пасьля Багаслужбы сьвятар Р. ДэЕгер, нядаўна выпушчаны вязень камуністычнага Кітаю, сказаў адпаведную казань. Тады групы паняволеных народаў зарганізаваным парадам прамашыравалі ўздоўж 5-ай авэню ў Цэнтральны Парк, дзе адбыўся пратэстацыйны мітынг.

Пасьля ўступных прамоваў, прывітаньняў і чытаньняў праклямацыяў галоўную прамову меў украінскі адвакат Пізьняк. Ён прыпомніў Прэзыдэнту Ніксану ягоныя словы з 1959 году пра вызваленьне ўсіх паняволеных народаў. У мастацкай частцы канфэрэньсье Вугорац Ч. Андрэзыскі прадставіў Беларускі жаноцкі хор „Каліна” із Саўт Рывэру пад кіраўніцтвам кампазытара К. Барысаўца. Хор вельмі ўдала й прыгожа выступіў з наступнымі песьнямі: „Васількі” на словы Н. Арсеньневай музыкі К. Барысаўца, „Пастух”, народная песьня ў вапрацоўцы Мухіна, „Ручнікі”, народная, „Ой пайду я, выйду” на словы Адама Русака, музыкі Любана, „Цераз сад — вінаград”, народная, кампазыцыі М. Куліковоча. Заводзілі салісткі Люда Махнюк і Рэня Касьцюк, а акампаньявала на піяніне Ларыса Шчорс.

Апрача Беларусаў, выступалі румынская й украінская танцавальныя групы. У канцы арганізатар Дня Паняволеных Народаў Баўгар Д-р Іван Дочэф заклікаў усіх прысутных прадэманстраваць перад Савецкай амбасадай у Нью Ёрку, каб выказаць пратэст супраць паняволеньня Савецкім Саюзам народаў.

**У НЯДЗЕЛЮ 19 ЛІПЕНЯ:**

Заканчэньне Тыдня Паняволеных Народаў адбылося сымбалічна каля Статуі Свабоды, у падножжа якое быў паложаны вянок у знак пашаны сьветлай памяці ўсіх тых, што злажылі жыцьцё ў змаганьні за вызваленьне сваіх народаў.

Былі прысутныя зарганізаваныя групы із сваймі нацыянальнымі сьцягамі наступных паняволеных народаў: Баўгарыі, Беларусі, Румыніі, Польшчы, Украіны, Нямеччыны, Летувы, Харваччыны, Азэрбайджану, Грузіі, Паўночнага Каўказу, Туркестану, Кубанскіх Казакаў і Кубы. Вельмі ўдала прэзэнтаваўся вялізны (20 на 10 мэтраў) харвацкі сьцяг, і група маладых Харватаў усьцяж хадзіла із сваімі плякатамі навокал зборышча, зварачаючы ўвагу ўсіх на сябе й свае лёзунгі.

Галоўную прамову меў сёлета, як і летась, прадстаўнік Прэзыдэнта ЗША Ляшлё С. Пастар, Дырэктар Нацыянальных групаў Рэспубліканскае партыі. Між іншымі, вітаў прысутных старшыня Камітэту Паняволеных Народаў гарадзкі судзьдзя М. Трой. З прачытаных прывітаньняў і праклямацыяў нельга не зьвярнуць увагі на той паніжальны спосаб, якім была прадстаўленая праклямацыя мэра гораду Нью Ёрку Джона В. Ліндзы. Хоць ён і не зьяўляецца асаблівым прыхільнікам паняволеных народаў, паказаная ім публічна няветлівасьць набывае непатрэбных ворагаў для ідэі вызваленьня.

**В. С.**

**СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЯПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ**

## АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Да ўсячэснага Сьвятарства і ўсіх Багалюбных вернікаў нашых на чужыне й на Бацькаўшчыне.**

**ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ Ў ХРЫСЬЦЕ!**

З волі Божае нашая Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква панесла вялікую страту зь неспадзяваным адыходам на вечны супачынак нашага дарагога Архіпастыра Ўладыкі Васіля. Сталася гэта 9 чырвеня лета Божага 1970.

Толькі нядаўна, 21 сьнежня летась, у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрку, быў адсьвяткаваны юбілей 20-ых угодкаў Ягонай Хіратоніі, калі вернікі ў вялікім зборы віталі свайго Архіпастыра Ўладыку Васіля, адзначаючы Ягоныя вялікія заслугі і Ягоную вялікую ахвярнасьць для свае роднае Царквы, і жадалі Яму многіх год жыцьця й працы, служэньня Богу й свайму народу.

Усе мы глыбака перажываем гэтую вялікую страту. Прымаючы волю Божую, узьнясём нашыя шчырыя малітвы да Найвышэйшага і будзем прасіць міласьці Божае, каб літасьцівы Збавіцель прыняў душу Ўладыкі нашага Васіля ў Сваё Валадарства Нябеснае, а нас узмоцніў духам і асьвяціў учынкі нашыя на Славу Божую і на крысьць нашае Сьвятое Царквы й нашага народу.

Госпад наш Ісус Хрыстос сказаў: „Хто хоча ісьці за Мною, адрачыся самога сябе і вазьмі крыж свой ды йдзі за Мною (Мрк. 8, 34).

Архіяпіскап Васіль у згодзе і з багаславенства Апякуна і Першагерарха Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея, узяў Сьвяты Крыж расьпінанае нашае роднае Царквы на Бацькаўшчыне, і нёс галоўны цяжар адбудовы БАПЦарквы, пашыраючы Слова Божае сярод свае паствы ў краінах Вольнага Сьвету, не наракаючы на жыцьцёвыя няўзгоды, змагаючыся зь перашкодамі, вонкавымі й нутранымі цяжкасьцямі.

**ВЕЧНЫ СУПАКОЙ ЯГОНАЙ ДУШЫ!**

Пастановаю Сьвяшчэннага Сабору БАПЦарквы ад 16 чырвеня 1970 г. Праасьвяшчэньнейшы Япіскап Андрэй пераймае кіраўніцтва Япархіі на ЗША, Канаду й Эўропу, а Праасьвяшчэньнейшы Япіскап Мікалай становіцца апякуном Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў БАПЦарквы заклікае ўсіх праваслаўных Беларусаў, незалежна ад сваіх палітычна-грамадзкіх разьбежнасьцяў, уліцца ў сваю родную нацыянальную Царкву, каб падтрымаць, узмоцніць і пашырыць Ейную дзейнасьць.

Царква Божая — гэта школа Божае Прамудрасьці, цеснае спалучэньне з нашым Збавіцелем — Крыніцаю ўсякае дабрадзейнасьці й сьвятасьці. Сьвятым абавязкам усіх праваслаўных Беларусаў на чужыне павінна быць належаньне да свае роднае БАПЦарквы, каб Усемагутны Госпад наш Ісус Хрыстос узмоцніў у нашых сэрцах веру, братэрскую любоў, пашану да сваіх нацыянальных Сьвятыняў і ўзаемна адзін да аднаго, дый да ўсяго братэрства ў Хрысьце.

Служэньне Царкве — абавязак ня толькі Герархіі й Сьвятарства, але сьвяты абавязак нас усіх, у роўнай меры адкупленых дарагою цаною — Кроўю Сына Божага — ня толькі дзеля асабістага збаўленьня, але й для зьяўленьня Сьвету Царквы — Цела Хрыстовага — бо ў Ім заложана вечнае прымірэньне й збаўленьне ўсіх і ўсяго.

Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога і Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амін!

**Дадзена Лета Божага 1970-га**
**Аўстралія-Амэрыка-Канада**

**✠ Зьмірэнны Архіяпіскап Сяргей**
**✠ Зьмірэнны Япіскап Андрэй**
**✠ Зьмірэнны Япіскап Мікалай**

## „БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ!—

**ТЭМА 9-АЙ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ Ў НЬЮ ЁРКУ**

**5, 6 і 7 верасьня сёлета.**

**ГАЛОЎНЫ ДЗЕНЬ СУСТРЭЧЫ — НЯДЗЕЛЯ 6 ВЕРАСЬНЯ:**

1. **10:00 гадз. нараніцы — Божая Служба** з удзелам Япіскапаў і Духавенства Япархіі ў Катадральным Саборы БАПЦ.
2. **2:30 гадз. папаўдні** — Акадэмія з выступленьнем Кангрэсмэна Сэймур Гальпэрна (Р), дакладам праф. А. Адамовіча й інш., пасьля чаго Канцэрт з удзелам ведамых салістых Надзеі Градэ, Кляўдзі Джыль-Ярашэвіч, Веры Рамук, Пётры Конюха, Міколы Стрэчаня, Жаноцкага Ансамблю зь Нью Ёрку, Хору з Кліўленду й інш. у Гатэлі Білтмор (Музычная заля) на Мангэтэне (рог 43 вул. і Мэдысон авэню). Акампаньямант праф. Эльзы Р. Зубковіч.
3. **8:00 гадз. вечарам** — Баль у тым-жа Гатэлі Білтмор.

У праграме таксама нарады ў справе беларускіх выдавецтваў, беларускага ўзгадаваньня моладзі, вечар мастацкае самадзейнасьці, зьведваньне Нью Ёрку й інш.

**БАЗА і ЗБК**

## СУКЦЭС БЕЛАРУСКАГА ЛЕКАРА

**Др. Барыс Рагуля абраны за сакратара міжнароднае мэдычнае арганізацыі Пан-Амэрыканскага Таварыства Цыталёгіі Рака.** Гэтым Таварыства адзначыла выдатны ўклад др. Б. Рагулі навукова й арганізацыйна ў справу лячэньня рака. У канцы травеня — пачатку чырвеня сёлета др. Б. Рагуля быў адным з дакладчыкаў на чацьвертым Пан-Амэрыканскім Кангрэсе Цыталёгіі Рака ў Джамэйцы, а ў жнівені выляцеў на месяц часу ў раён канадыйскае Арктыкі ў праграме мэдычнае дапамогі канадзкага ўраду Эськімосам.

## ПАВАЖАНЫЯ СУРОДЗІЧЫ

**Газэта „Беларус” выдаецца за дабравольныя ахвяры беларускага грамадзтва. Таму не павінна быць ніводнага Беларуса, які-б атрымліваў і чытаў нашую газэту задарма.**

**Таксама не павінна быць ніводнага Беларуса, які-б не атрымліваў і ня чытаў нашай газэты.**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# УЦЯКАЮЦЬ З КАЛГАСНАГА РАЮ

Зьява масавых уцёкаў жыхароў сяньняшняе беларускае вёскі ў горад, галоўна вясковае моладзі пачынае сяньня паважна трывожыць людзей, не абыякавых да будучыні беларускага народу. Зьява гэтая апошнім часам знаходзіць штораз большы водгук у творах беларускае мастацкае літаратуры ды штораз часьцей абмяркоўваецца ў пэрыядычным друку. Масавыя ўцёкі вясковае моладзі ў горад ствараюць сяньня вельмі паважную сацыяльную, эканамічную й культурную, а разам з гэтым, для нерасейскіх народаў СССР, і нацыянальную праблему, вынікаў якой цяжка нават прадбачыць.

На гэтую тэму ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 5 чырвеня сёлета зьявіўся вельмі цікавы артыкул М. Дзелянкоўскага „Калі зірнуць у заўтра". Бяручы за аснову сваіх разважаньняў сытуацыю ў Нясьвіскім раёне, аўтар адсланяе проста жахлівы абраз сяньняшняй вясковай рэчаіснасьці. Вось колькі канкрэтных прыкладаў, узятых аўтарам зь некаторых калгасаў Нясьвіжчыны і іншых сумежных раёнаў:

1. Былы старшыня ведамага ў Нясьвіскім раёне калгасу „17 Верасьня" Уладзімер Галушка шэсьць гадоў таму хваліўся, што „многія выпускнікі школы набываюць сельскія прафэсіі, застаюцца ў калгасе. Прычыну ён бачыў у тым, што ў арцелі высокія заробкі, добрыя ўмовы для жыцьця і адпачынку". А сяньня, той-жа Уладзімер Галушка, ужо пэнсіянэр, вось што сказаў аўтару артыкулу: „І нас моладзь пачала пакідаць. На паўтары сотні зьмяншаецца насельніцтва кожны год".

2. Галоўны аграном сельгасупраўленьня Нясьвіскага райвыканкому М. Дземух, ураджэнец калгасу „17 Верасьня", паведамляе: „Раней прыедзеш у вёску — на танцы сходзіць, зь людзьмі сустрэнешся, пагаворыш. А цяпер брыгадныя клюбы нават у выхадныя рэдка адкрываюцца: няма для каго адкрываць".

3. „Калгас „Савецкая Беларусь" Клецкага раёну эканамічна яшчэ мацнейшы. Людзі жывуць тут у вадным удала сплянаваным пасёлку. Ёсьць школа, цудоўны Дом культуры на 430 месц, дзіцячы сад на 100 месц (хутка будзе яшчэ адзін), быткамбінат. Вытворчасьць мэханізаваная. Заробкі высокія, але і гэта ня прываблівае моладзь, усё менш застаецца яе ў калгасе".

4. „У Нясьвіскім калгасе імя Дзяржынскага дырэктар школы з жалем гаварыла: „— Пабудавалі ў нас тыпавую школу. Прасторная яна, сьветлая. Адно толькі не хапае... дзяцей. Летам малых па вёсках шмат лётае. А прыйдзе восень, і бацькі забіраюць іх ад бабулек у горад. Праз пару гадоў у нас нават камплекту першаклясьнікаў не набярэцца".

5. Аўтар артыкулу „Калі зірнуць у заўтра" паведамляе далей: „Тое самае пачуў я і ў стаўбцоўскім калгасе „Чырвоная Зорка". І тут праз пару гадоў у першую клясу пойдзе ня больш аднаго-двух дзесяткаў дзяцей".

6. „Такія асобныя штрыхі. А які агульны малюнак? У Нясьвіскім раёне сельскае насельніцтва штогод зьмяншаецца прыкладна на тысячу чалавек. Тое-ж у Клецкім і Стаўбцоўскім".

Тое-ж і ў цэлай Беларусі — удакладнім мы. Падобныя сьцьверджаньні й нараканьні зьяўляюцца ў друку з усе Беларусі.

„Парадокс — жыцьцё ў вёсцы паляпшаецца, а людзі пакідаюць яе" — сьцьвярджае М. Дземянкоўскі. Прычынай уцяканьня моладзі ў горад шукае аўтар артыкулу не ў эканамічных абставінах, якія, на ягоную думку, бліскучыя, а ў абставінах бытавых і культурных: быццам вясковая моладзь у сувязі з павышэньнем свайго матарыяльнага дабрабыту мае ўсе дадзеныя месц і высокае бытавое й культурнае абслугоўваньне, гэткае, як у горадзе, а тымчасам у запраўднасьці яго няма. Дык і ўцякае ў горад у пошуках лепшых бытавых і культурных абставінаў жыцьця.

На думку аўтара артыкулу, трэба стварыць і для вясковае моладзі тыя-ж самыя бытавыя й культурныя абставіны жыцьця, якія мае моладзь гарадзкая. Дзякуючы шырокай мэханізацыі сельскае гаспадаркі ды разьвіцьцю вясковага мэханізаванага транспарту, сяньняшнія калгасы, на думку аўтара, павінны пераўтварацца ў свайго роду „сельскія гарадкі" з усімі асаблівасьцямі гарадзкога жыцьця. Тады моладзь ня будзе, маўляў, адчуваць патрэбы ўцяканьня ў горад. Свой артыкул канчае аўтар гэткімі парадамі: „Вёску сёньня неабходна забудоўваць з пэрспэктывай. А якая яна, пэрспэктыва, трэба вызначыць, грунтуючыся на аб'ектыўных фактах".

Аўтар артыкулу М. Дземянкоўскі падаў усяго адну прычыну, культурна-бытавую, дзеля якой моладзь масава пакідае вёску, пры гэтым прычыну далёка не найважнейшую.

Тое, што ў сяньняшняй калгаснай вёсцы сяляне быццам зажылі ўзапраўды „радасным і заможным жыцьцём", ня што іншае, як прапагандавы міт. Людзі вёскі, за вынятакам, пэўне-ж, калгаснай і партыйнай адміністрацыі, жывуць куды бядней ды ў больш прымітыўных абставінах і ў нястачах, а працуюць шмат цяжэй, чымся людзі ў горадзе. І гэта адна з далейшых прычынаў уцёкаў моладзі ў гарады ды на асваеньне цалінных земляў Казахстану й Сібіру. Але й гэтая, бясспрэчна важнейшая за гэную культурна-бытавую прычыну, яшчэ не галоўная.

Галоўнай-жа прычынай уцяканьня моладзі зь вёскі — прычына **маральна-псыхалягічная**. Пасьля пазбаўленьня спрадвечных жыхароў вёскі іхнага ўласнага куска зямлі былі разбураныя тыя псыхалягічныя й маральныя асновы вясковага ладу, што існавалі да калектывізацыі й вызначалі галоўную існасьць вясковага жыцьця.

У дарэвалюцыйныя, гэтак і ў савецкія дакалгасныя часы ўцякалі вясковыя людзі ў горад або навет за межы свае бацькаўшчыны адно з канечнасьці, будучы змушанымі да гэтага чыста матарыяльнымі прычынамі, калі малы кусок зямлі ня мог забясьпечыць працай і пражыцьцём усіх чыста сяброў вялікае сялянскае сям'і. Тады звычайна малодшыя дзеці ў пошуках куска хлеба „ішлі ў сьвет", а на гаспадарцы заставаўся адзін зь іх, звычайна старэйшы сын ці дачка, каб працягваць існаваньне сям'і й атрыманай у спадчыне гаспадаркі. Выпадкі, калі селянін прадаваў усю сваю гаспадарку й зямлю ды падаваўся з цэлай сям'ёй у сьвет, былі рэдкімі вынаткамі. Свая зямля й свая гаспадарка былі чымсьці сьвятым, чаго нельга было выракацца.

З настаньнем-жа калгасаў і скасаваньнем прыватнай уласнасьці на зямлю маральныя й псыхалягічныя ўстоі беларускага сялянства былі ў зародку разбураныя. Селянін стаўся пазбаўленым свае ўласнае гаспадаркі, а ягоная зямля, атрыманая ў спадчыне ад дзядоў і прадзедаў ды зрошаная іхным потам, сталася не ягонай, а чужая, „чорта лысага", як кажуць у народзе. Вось у гэтым галоўная прычына сяньняшняе масавае зьявы ўцёкаў зь вёскі і ад зямлі, што, будучы не ягонай, нічым селяніна ўжо ня зьвязвае.

Разбурэньне старое вёскі й выкараненьне ў сьведамасьці селяніна ягонае прывязанасьці да зямлі — зьява, сьведама створаная бальшавікамі ў іхным-жа палітычным інтарэсе. Яна, зьява гэтая, прыпадабняе селяніна да хвабрычнага работніка, падпарадкоўвае яго партыйнаму кантролю ды робіць яго цалком залежным ад дзяржавы, а ўцёкі вясковае моладзі ў зрусыфікаваны горад, ня кажучы ўжо пра казахстанскую цаліну, Сібір і далёкую Поўнач, прысьпешваюць і ейную русыфікацыю.

Вось чаму гэтак частае ўсьлаўленьне вёскі й вясковага жыцьця ў сучаснай беларускай літаратуры ды ейная жывая тэндэнцыя, скіраваная на тое, каб вясковая моладзь пры ўсякіх абставінах не пакідала вёскі й не адрывалася ад традыцыі продкаў, ня што іншае, як адна з формаў самаабароны перад русыфікацыяй.

**Ст. Станкевіч**

**20-ЫЯ ЎГОДКІ ЗБАМ**

## ЗЬЕЗД У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

4-га ліпеня, ў суботу, у Кліўленьдзе адбылося сьвяткаваньне дваццацігодзьдзя Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Ужо ў пятніцу прыехала шмат моладзі й гасьцей зь іншых асяродкаў. Усе правялі дзень над возерам у „Полацку". У вечары пры вогнішчы музыканты з Ашавы пагралі, аматары пасьпявалі і сп. М. Жызьнеўскі паказаў фільм зь беларускімі краявідамі, песьнямі й танцамі. Позна парою пачалі разьяжджацца на начлег. У суботу з раніцы распачаліся змаганьні ў валейбол. Кліўлендзкія хлапцы і дзяўчаты занялі першыя месцы.

Увечары распачалася афіцыяльная частка (Банкет) у гатэлі Шэрэтон. Банкетам кіраваў цяперашні кіраўнік сп. Ул. Страпко, а галоўную прамову меў сп. А. Гасьцееў. Абодвы прамоўцы з маладшае моладзі, і таму амаль нічога не закранулі з дваццацігадовае працы моладзі, што адчувалася абавязковым у гэтую гадавіну. Зразумела, тут віна дарадчыкаў. Выступалі з прывітальнымі словамі сп. М. Жызьнеўскі з Чыкаго, сп. А. Лысюк з Нью Джэрзі, сп. В. Гарошка зь Нью Ёрку, сп. П. Плескач з Дэтройту, сп. Б. Кірка з Таронта і на канцы Уладыка Андрэй.

Падчас Банкету выступаў танцавальны гурток зь Нью Джэрзі пад кіраўніцтвам сп. А. Лысюка. Пасьля Банкету распачалася вечарына пад гукі ведамай беларускай аркестры сп. Б. Лішчонка з Канады. Падчас вечарыны гучэлі беларускія песьні і, хоць было ўжо вельмі позна, аднак удзельнікі не хацелі разыходзіцца. Назаўтра, у нядзелю, у БАПЦарkве пасьля зьвычайнае сьв. Літургіі Уладыка Андрэй адслужыў Малебен удзячнасьці з нагоды дваццацігодзьдзя моладзі. Пасьля Багаслужбы некаторыя госьці ад'ехалі дадому, а іншыя паехалі на грамадзкі цэнтар „Полацак", дзе яшчэ праводзілі час із сваімі суродзічамі. З нагоды 20-ае гадавіны моладзі выйшла кніжка, дзе адлюстравана дзейнасьць моладзі за 20 гадоў.

## ТРЭБА ЦЕШЫЦЦА

Зьезд беларускае моладзі, што адбываецца штогоду, гэтым разам быў праведзены ў Кліўленьдзе ад 3-5 ліпеня. Зьезд гэты быў асабліва ўрачыстым, бо адначасна адзначаліся й 20-ыя ўгодкі ад заснаваньня Згуртаваньня Беларуска - Амэрыканскае Моладзі.

На Зьезд зьехалася шмат былых і цяперашніх сяброў арганізацыі зь Нью Ёрку, Нью Бранзьвіку, Дэтройту, Чыкага й Канады. Пераважала моладзь у веку 15-20 гадоў.

Сумна, што мала было тых, што заснoўвалі арганізацыю 20 год таму. Для нас, тых што тады яшчэ не належалі да арганізацыі, было-б вельмі карысна пачуць ад іх, як пасталі й працавала, як разьвівалася й расла арганізацыя моладзі.

Зьезд адбываўся пераважна на грамадзкім селішчы „Полацак", дзе купаліся ў возеры й дзе хлапцоўскія й дзяўчацкія валейбольныя дружыны стараліся перамагчы адна адну. Выйграла дружына з Кліўленду дзяўчацкая й хлапцоўская, але выйгрыш ня быў вельмі лёгкі, бо розьніца ў пунктах паміж кліўлендзкай і ньюёрскай хлапцоўскай дружынай была вельмі нязначная.

У пятніцу вечарам было вогнішча, на якім моладзь сьпявала беларускія песьні. У суботу пасьля спартовых гульняў адбылася афіцыйная частка: банкет у мотэлі, на якім выступалі з прамовамі сябры арганізацыі з розных асяродкаў. Танцавальны гурток Нью Джэрзі выступіў падчас банкету з трыма народнымі танцамі: Таўкачыкі, Лявоніха й Мікіта. Трэба пахваліць удзельнікаў танцавальнае групы, што гэтак прыгожа танцавалі, асабліва ейных удзельнікаў зь Нью Джэрзі, якія што пятніцы прыяжджалі ў Нью Ёрк на пробы. Найбольшая заслуга ў гэтым Аўгена Лысюка, што зарганізаваў групу, а сп-ня Ала Орса-Рамано падрыхтавала да выступу.

Сябры танцавальнага гуртка: Аксана Януш, Галіна Тумаш, Аня Бойчук, Ганна Харавец, Ірэна Азарка, Галіна Кажура, Аня Бартуль, Ларыса Курыла, Рая Станкевіч; хлопцы — Аўген Лысюк, Віктар Лосік, Мікалай Швэд, Юрка Азарка, Вячаслаў Станкевіч, Юрка Курыла, Аляксандар Харавец, Янка Балкоўскі й Аляксандар Стагановіч.

Вельмі шкада, што Кліўлендзкі Аддзел арганізацыі моладзі не падрыхтаваў ніякай мастацкай праграмы, хоць там ёсьць добры танцавальны гурток і хор.

Таксама шкада, што тыя старэйшыя прысутныя сябры, што прыймалі й прыймаюць актыўны ўдзел у працы арганізацыі ад самага ейнага пачатку, — не скарысталі з нагоды падзяліцца сваімі ўспамінамі з маладзейшымі.

Дзень быў весела закончаны вечарынай пад музыку беларускай аркестры з Канады.

У нядзелю пасьля Божае Службы й малебну, які быў адслужаны Уладыкам Андрэем у саборы Жыровіцкай Божай Маці за беларускую моладзь, ды пасьля разьвітаньняў закончыўся Зьезд.

Едучы дамоў цэлай групай у аўтобусе, дзяліліся ўражаньнямі. Маё ўражаньне вельмі пазытыўнае, таму што зусім маладыя нашыя сябры прынялі гэткі шматколькасны й актыўны ўдзел у Зьезьдзе. Шмат працы ўлажыла Галоўнае Кіраўніцтва ЗБАМ зь ягоным старшынём Ул. Страпком. Не зважаючы на некаторыя недахопы Зьезду ў ягоным зарганізаваньні, Зьезд, аднак, прайшоў добра й зусім выразна паказаў, якая вялікая колькасьць маладых сяброў гатовая весьці працу ў арганізацыі далей, а для старэйшых сяброў, я думаю, стала ясным, што дапамога іхная патрэбная, руплівая й сталая, каб захаваць цягласьць і нацыянальны зьмест арганізацыі. Усё гэта для тае супольнае мэты, каб жыла Беларусь у змаганьні.

**Рая Станкевіч**

## ДУМКІ МАЛАДОГА БЕЛАРУСА Ў АМЭРЫЦЫ

**(З выступленьня Андрэя Гасьцеева, студэнта трэйцяга курсу Нотрэ-дэймскага ўнівэрсытэту, на юбілейным зьезьдзе Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Кліўленьдзе 4 ліпеня 1970 г.).**

....Я толькі што скончыў чытаць кніжку Абі Гофмана, аднаго з васьмёх, якіх судзілі ў Чыкага апошняе восені за змову. У кніжцы, загалоўленай „Рэвалюцыя хоць праз пекла", ход пра пакаленьне сучаснае моладзі. Гофман цьвердзіць, што цяперашні рух моладзі ў сьвеце — гэта хваля будучыні. Можа ён і мае рацыю. Няма сумляваньня ў тым, што падлеткі й маладыя людзі 60-ых і 70-ых гадоў сьведамыя больш, чымся калі-небудзь былі іхныя папярэднікі. Яны больш сьведамыя палітычна, сацыяльна, сэксуальна, музычна, і сьведамыя сваіх правоў як людзкія адзінкі. Зразумела, можна згаджацца ці не згаджацца з тым, што моладзь у гэтым краі робіць сяньня. Але трэба сьцьвердзіць, што ў нас даволі сілы, каб мяняць пагляды нашага грамадзтва на шмат якія пытаньні.

Між намі й Гофманам аднак ёсьць тут вялікае разыходжаньне. Гофман прапагуе сацыяльную рэвалюцыю. Мы-ж — уцекачы або дзеці ўцекачоў ад ліхіх вынікаў сацыяльнае рэвалюцыі, бальшавіцкага перавароту 1917 году. Нашыя бацькі пакінулі свой край, уцякаючы ад камунізму ў шуканьні шчасьця й свабоды ў Амэрыцы. Ёсьць, праўда, шмат Амэрыканцаў, роджаных тут, якія ўважаюць, што шчасьце й свабода недзе ў іншым месцы. Цікава тут адзначыць, што пурытане, якія ўжо ў 17-м стагодзьдзі былі аднымі зь першых пасяленцаў у Амэрыцы, уцякалі ад перасьледаў у сваіх краёх якраз як гэта было й з нашымі бацькамі напярэдадні й пасьля другое Сусьветнае вайны. І як тыя першыя пасяленцы, мы гуртаваліся разам, каб трымацца задзіночанымі. ЗБАМ — адно з гэткіх згуртаваньняў.

Дваццаць гадоў гэта вялікі час для арганізацыі. Мяне яшчэ ня было ў Кліўленьдзе, калі Згуртаваньне пачынала сваю дзейнасьць. Шмат каго з нас ня было тады. Але я памятаю, як шмат гэта дапамагло нашай сям'і ўладзіцца, калі мы прыбылі сюды ў 1960 годзе. Я прыгадваю сабе маёўкі, вялікодныя ўсяночныя багаслужбы, футбол, танцавальныя зборкі, вечарынкі. Мой бацька меў знаёмых у БАЗА яшчэ да таго, як мы прыехалі, і ў мяне неўзабаве знайшліся сябры-аднагодкі.

Маладзёжная арганізацыя — важная рэч. Амэрыканцы маюць свае, Жыды — свае, Украінцы — свае, дык чаму-ж ня мець іх Беларусам? Ад гэтага выйграецца шмат. Гэта зразумела, што эмігранты, прыбыўшы ў Амэрыку, чуюцца спачатку крыху згубіўшыся. Адсюль і тэндэнцыя трымацца разам у групах, каб перахоўваць культурныя традыцыі, мову, дапамагаць адзін аднаму абжывацца ў новым краі. Гэтак-жа, відаць, было й з намі, калі ў 1950 годзе тварылася Згуртаваньне Беларускае Моладзі. Ад гэнага часу яно заплянавала й правяло шмат справаў: падарожжа ў Нью-Ёрк на Сусьветную Выстаўку, шмат падарожжаў на Бэлер-Менск, дзе й я колькі разоў прыемна праводзіў час. Згуртаваньне ладзіла культурныя выстаўкі, гэткія, як тая зь іх, што адбылася тры тыдні таму ў вадным з унівэрсальных магазынаў на нізавіне Кліўленду. І што найважнейшае, яно дапамагло ўтрымаць лучнасьць між моладзяй усіх іншых гарадоў, прадстаўленых тут сяньня.

Адна з галоўных мэтаў ЗБАМ — захаваць беларускія традыцыі ў грамадах беларускіх пасяленцаў. Мы маем багатую спадчыну дзеля пазнаньня. Мы маем паэзію, бэлетрыстыку, мастацтва, танцы, а што найважнейшае — мову. Вычуваецца, зразумела, вялікі ціск, што паслабляе нашую прывязанасьць да сваіх беларускіх традыцыяў. Ды калі нам удалося захаваць іх у Нямеччыне, Бэльгіі, Францыі ды ў іншых краёх да прыезду ў Амэрыку, дык мы можам даць рады, каб захаваць іх таксама і ў Амэрыцы. Дзеля гэтага якраз ЗБАМ праводзіць мерапрыемствы, як сяньняшні наш зьезд, што ўзнаўляюць нашае адзінства па ўсім гэтым краі, мацуюць нашую лучнасьць міжсобку.

Ёсьць, праўда, адна акалічнасьць, якую мы мусім прызнаць ды спрабаваць прыняць як факт. Гэта той факт, што з гадамі мы стаёмся штораз больш і больш Амэрыканцамі, асабліва мы, моладзь. Гэта немінуча. Дзіцё будзе заўсёды будаваць свой сьвет у асяродзьдзі, у якім яно жыве. Але мы бачым таксама сучасны факт, што наўсуперак нашай паступовай амэрыканізацыі, у сэрцах нашых мы застаёмся й застанёмся назаўсёды Беларусамі.

**Андрэй Гасьцееў**

## БЕЛАРУСЫ Ў АДЭЛЯІДЗЕ

Не зважаючы на тое, што ў Аўстралійскім горадзе Адэляйда ня шмат Беларусаў, усё-ж яны, у меру сваіх магчымасьцяў, праяўляюць нацыянальную актыўнасьць.

Прыкладам, сёлета Беларусы Адэляйды ўрачыста сьвяткавалі ўгодкі Акту 25 Сакавіка з адмысловым малебнам і банкетам, у якіх прыняла ўдзел значная колькасьць людзей.

Як нас інфармуюць нашыя чытачы ў Аўстраліі, сьмерць Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка й Архіяпіскапа Васіля моцна перажывалі Беларусы Адэляйды. Сьвятар Васіль Чэчэліс адслужыў быў паніхіду па абодвых памерлых ды сказаў з нагоды іхнае сьмерці палымяную казань.

Увосень сёлета Беларусы Адэляйды маюць зарганізаваць сяброўскую вечарыну, каб зацесьніць між сабой асабістыя кантакты. Сп. Уладзімер Акавіты й інж. П. Трысмакоў належаць, між іншымі, да актыўных грамадзкіх працаўнікоў гэтага асяроддзя.

**А. М.**

